# Голас Радзімы

№ 22 (2112)
1 чэрвеня 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Вось і скончаны навучальны год у школах. Прыйшлі доўгачаканыя летнія канікулы, у час якіх дзяцей чакае столькі прыемных сустрэч і знаёмстваў, цікавых паездак. Развітваюцца са сваёй першай настаўніцай Марыяй АРЛУКЕВІЧ і вучні трэцяга класа Забалоцкай школы Смалявіцкага раёна. Гэта яна вучыла іх пісаць першыя літары, чытаць па складах словы, разумець гэты свет і сябе ў ім.

«Якімі людзьмі вырастуць сённяшнія бесклапотныя дзеці! Ім уступаць у самастойнае жыццё на пачатку XXI стагоддзя,— думае настаўніца.— Якой мы перададзім ім сваю зямлю!» Няпростае пытанне. Гэтак хочацца настаўніцы, каб сталі яе вучні прыстойнымі людзьмі, гаспадарамі ў сваёй вёсцы, каб таленты іх і здольнасці знайшлі сваё прымяненне, а жыццё прыносіла радасць і задавальненне.

Фота А. КЛЯШЧУКА.

# З'ЕЗД НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ

25 мая ў Маскве ў Крамлёўскім Палацы з'ездаў пачаў работу З'езд народных дэпутатаў СССР. На яго сабраліся 2 155 народных дэпутатаў СССР з 2 249 выбраных. Гэта рабочыя, калгаснікі, кіраўнікі вытворчасці, вучоныя, дзеячы культуры, ваеннаслужачыя, прадстаўнікі духавенства. Людзі 65 нацый і народнасцей. І зразумела, што ў кожнага з іх ёсць свае прыярытэтныя інтарэсы і задачы, наказы выбаршчыкаў. Але ўласныя, спецыфічныя для многіх рэгіёнаў праблемы не павінны загароджваць таго, што хвалюе ўсіх. Цяперашняму дэпутацкаму корпусу трэба вырашыць задачы агульнадзяржаўнага значэння. Гэтыя задачы ўскладзены Савецкай Канстытуцыяй перш за ўсё на З'езд народных дэпутатаў, які, з'яўляючыся вышэйшым органам дзяржаўнай улады, правамоцны разглядаць любое пытанне, аднесенае да ведання СССР, вызначае галоўную лінію дзейнасці Вярхоўнага Савета, усіх іншых дзяржаўных органаў. Ад з'езда чакаюць многага. І ў першую чаргу, адказу на хвалюючыя людзей пытанні, звязаныя з далейшым ходам перабудовы.

У першы дзень работы дэпутаты зацвердзілі парадак дня і парадак работы З'езда. Сярод вынесеных на абмеркаванне пытанняў—выбранне Старшыні Вярхоўнага Савета СССР. Упершыню за многія гады выбары кіраўніка краіны праходзілі ў сапраўды дэмакратычных, адкрытых умовах. Вялося прамое трансліраванне пасяджэння на ўсю краіну па радыё і тэлебачанні. Дэпутаты ў зале шчыра і зацікаўлена выказвалі ўсе свае пажаданні, парады, прэтэнзіі, адрасаваныя Міхаілу Сяргеевічу Гарбачову, якога вылучылі на пасаду старшыні. Сярод выступаючых па гэтаму пытанню быў і дэпутат ад Беларусі У. Бядуля. Ён падкрэсліў, што рашучы, рэвалюцыйны паварот у айчыннай гісторыі дасягнуты мірным шляхам, і тут нельга не аддаць належнае М. С. Гарбачову, палітычнаму, дзеячу, які паслядоўна процістаяўляе ўзаемаразуменне абвастрэнню адносін, адзінства—варожасці, дэмакратыю—экстрэмізму. У. Бядуля падтрымаў кандыдатуру М. С. Гарбачова.

Дэпутат з Эстоніі Лаурысцін М. И. заявіла: «Я хачу сказаць, што народна-дэмакратычны рух Прыбалтыкі ў абарону перабудовы з самага пачатку бачыў у Міхаіле Сяргеевічу Гарбачове лідэра дэмакратычнага. І мы не бачым цяпер альтэрнатывы яго кандыдатуры». Але прамоўца паставіла некалькі пытанняў, на якія хацела б атрымаць ад М. С. Гарбачова адказы. Яны тычыліся суверэнітэту рэспублік і нядаўніх падзей у Тбілісі.

Значная дыскусія разгарнулася па пытанню сумяшчэння адным чалавекам дзвюх пасад: Генеральнага сакратара ЦК КПСС і Старшыні Вярхоўнага Савета СССР. На гэты конт дэпутатамі выказваліся нярэдка дыяметральна процілеглыя меркаванні.

У ходзе пасяджэння былі выказаны думкі аб неабходнасці ўключэння ў бюлетэнь для тайнага галасавання альтэрнатыўных кандыдатур. Дэпутат А. Абаленскі выступіў з заявай аб вылучэнні сваёй кандыдатуры на пасаду старшыні, выклаў сваю праграму, галоўная задача якой—пабудова прававодй дзяржавы. Дэпутаты абмеркавалі кандыдатуру Абаленскага, але большасцю галасоў у бюлетэнь яе не ўнеслі. З просьбай пра самаадвод выступіў дэпутат Б. Ельцын, кандыдатура якога таксама была прапанавана.

Затым адбыліся выбары. За М. С. Гарбачова было пададзена 2 123 бюлетэні, супраць — 87. З'езд на аснове вынікаў галасавання прыняў пастанову аб выбранні М. С. Гарбачова Старшынёй Вярхоўнага Савета СССР.

На наступны дзень адбыўся разгляд пытання аб выбранні Вярхоўнага Савета СССР. Таксама перад дэпутатамі выступіў М. С. Гарбачоў. Ён падзякаваў за аказаны давер, адказаў на пастаўленыя да яго асабіста пытанні.

27 мая былі абвешчаны вынікі тайнага галасавання па выбарах у Вярхоўны Савет СССР. Большасцю галасоў З'езд ануляваў вынікі выбараў у Савет Нацыянальнасцей ад Азербайджанскай ССР у частцы, якая датычыць Нагорна-Карабахскай аўтаномнай вобласці. Прэзідыуму З'езда і дэлегацыі ад Азербайджана, уключаючы дэпутатаў ад НКАВ, даручана прапрацаваць пытанне і ўнесці прапановы.

Затым разгарнулася дыскусія па актуальных пытаннях работы З'езда. З вострa крытычнымі заўвагамі выступілі дэпутаты Ю. Афанасьеў, Г. Папоў, А. Адамовіч.

**НА ЗДЫМКУ: група народных дэпутатаў СССР з Беларусі ў Крамлі.**



ВІЗІТЫ

## ГОСЦІ З СЛАВЕНІІ

**У Мінску знаходзілася дэлегацыя Сацыялістычнай Рэспублікі Славеніі, якую ўзначальваў намеснік Старшыні Выканаўчага Веча Скупшчыны Янез Бохарыч. Госці наведалі вытворчае аб'яднанне «Крыніца» і Мінскі аўтамабільны завод. Дэлегацыя была прынята намеснікам Старшыні Савета Міністраў БССР М. Макаедам.**

**У час знаходжання дэлегацыі былі абмеркаваны пытанні далейшага супрацоўніцтва СР Славеніі і Беларускай ССР.**

МІЖНАРОДНАЯ ВЫСТАЎКА

## «ПАРАШКОВАЯ МЕТАЛУРГІЯ-89»

**Так называецца традыцыйная, пятая па ліку, міжнародная спецыялізаваная выстаўка, якая адкрылася ў Мінску ў выставачным комплексе Гандлёва-прамысловай палаты БССР.**

**У выстаўцы прымаюць удзел прадстаўнікі 110 фірм, прадпрыемстваў і арганізацый з адзінаццаці краін свету. Упершыню прадстаўлены савецкі раздзел, асноўную частку якога склалі экспанаты Беларускага навукова-вытворчага аб'яднання парашковай металургіі. На шматлікіх стэндах можна пазнаёміцца з распрацоўкамі па абсталяванню і тэхналогіі для вытворчасці вырабаў з металічных парашкоў і керамічных матэрыялаў, нанясення ахоўных пакрыццяў, прыборамі для даследавання саставу і ўласцівасцей парашковых матэрыялаў і г. д. Некалькі раздзелаў належаць сумесным прадпрыемствам савецкіх і замежных фірм, а таксама кааператывам.**

**Ужо сёння ў рэспубліцы наладжаны добрыя, партнёрскія сувязі з такімі краінамі, як Балгарыя, Польшча, Чэхаславакія, Венгрыя, ГДР. Дзелавое супрацоўніцтва вядзецца і з некаторымі фірмамі ФРГ, Швейцарыі.**

**У ходзе выстаўкі запланаваны навукова-тэхнічны сімпозіум, рэгіянальны сімпозіум эканамічнай і сацыяльнай камісіі ААН для краін Азіі і Ціхага акіяна. Без сумнення, усё гэта будзе садзейнічаць каштоўнаму абмену ідэямі, наладжванню дзелавых сувязей, паслужыць справе далейшага прагрэсу ў развіцці парашковай металургіі.**

У ЛАБАРАТОРЫЯХ ВУЧОНЫХ



**Рэакцыю «халоднага» ядзернага сінтэзу, пры якой з выдзяленнем энергіі зліваюцца ядры дэйтэрыя, услед за вучонымі Маскоўскага універсітэта і Харкаўскага тэхналагічнага інстытута Акадэміі навук Украіны паспяхова правялі фізікі Белдзяржуніверсітэта. Паўтарэнне вопыту з рознымі электродамі і токамі паказала, што эфект у кожным выпадку назіраецца стабільны. Эксперымент беларускіх вучоных пацвердзіў даныя, якія нядаўна ўпершыню атрыманы амерыканцамі М. Флейшманам і С. Понсам. Новы спосаб ядзернага сінтэзу, на думку спецыялістаў, можа даць чалавецтву экалагічна чыстую і практычна невычэрпную крыніцу энергіі.**

**НА ЗДЫМКУ: загадчык лабараторыі кандыдат тэхнічных навук Уладзімір ЧУДАКОЎ (справа) і навуковы супрацоўнік Юрый ЛІТВІНОВІЧ за абмеркаваннем вынікаў эксперыменту.**

ЗАКЛЮЧАНЫ КАНТРАКТ

## ЗАПЧАСТКІ ДЛЯ ФРГ

Нядаўна адміністрацыя завода «Лідсельмаш» заключыла з заходнегерманскай фірмай «Нівёнэр» кантракт на пастаўку ёй вузлоў і дэталей. Такі дакумент машынабудаўнікі падпісалі першымі сярод прадпрыемстваў сваёй галіны, якія спецыялізуюцца на выпуску сельскагаспадарчай тэхнікі.

Гэта супрацоўніцтва для «Лідсельмаша» — справа новая і выгадная. У перспектыве калектыў планує закупіць за мяжой не толькі новыя тэхналагічныя лініі і станкі, але і медыцынскае абсталяванне для ўласнага медпункта, іншыя тавары.

Завод ужо набыў у фірмы таксама машыну для двухфазнай уборкі бульбы. Восенню на палях саўгаса імя Леніна Іўеўскага раёна, з якім «Лідсельмаш» мае дагавор на навукова-тэхнічнае супрацоўніцтва, будуць праведзены выпрабаванні.

Акрамя таго, фірма, якая займаецца выпускам уборачных машын для морквы, цыбулі, буракоў, іншых сельскагаспадарчых культур, гатова падзяліцца і гэтым вопытам. Умацаванне такіх сувязей дасць эканамічную выгаду і Лідзе. Пяць працэнтаў атрыманай валюты прадпрыемства будзе пералічваць у бюджэт горада.

ТЭХНІКА — ВЁСЦЫ



**Першую партыю новых сеялак, якія распрацаваны ў навукова-вытворчым аб'яднанні «Белсельгасмеханізацыя», адправіў у гаспадаркі Беларусі, Літвы і Смаленскай вобласці Лідскі аўтарамонтны завод. Сеялка аснашчана камплектам навясных прылад для пасеву ўсіх відаў траў, травасумесей і іншых палявых дробнанасенных культур.**

**НА ЗДЫМКУ: ідзе падрыхтоўка сеялкі да работы. Злева направа — намеснік дырэктара Лідскага аўтарамонтнага завода Я. БЫЧАК, галоўны інжынер прадпрыемства А. БЫЧКО і механізатар калгаса «Камунар» Лідскага раёна В. ЛУКАШЭВІЧ.**

КААПЕРАТЫВЫ

## ПРЫНЯТЫ СТАТУТ

**Аб'яднаны з'езд кааператываў, якія працуюць у сферы вытворчасці і паслуг, адбыўся ў Мінску. Ён прыняў статут Саюза кааператываў БССР, выбраў кіруючыя органы.**

**У Беларусі ўжо дзейнічае каля трох тысяч кааператываў, якія выпусцілі прадукцыі і аказалі паслуг амаль на 150 мільёнаў рублёў. Новастовораны саюз ставіць перад сабой задачы ўсебаковай дапамогі кааператарам, іх сацыяльнай абароны. З гэтай мэтай арганізуецца прафсаюз, юрыдычная і эканамічная службы.**

СУЧАСНАЯ ПРАДУКЦЫЯ

## АСВЯЖАЮЧЫ НАПІТАК

**Піць у паходзе ці далёкай дарозе хочацца заўсёды. Новая прадукцыя Маладзечанскага піўзавода, безумоўна, прыйдзецца даспадобы і турыстам, і падарожнікам, і дачнікам. Таму што любы запас шыпучага асвяжаючага напітку змесціцца цяпер у мініяцюрным пакеціку. На прывале дастаткова высыпаць некалькі грамаў парашку ў ваду — і напітак гатовы.**

**Асартымент безалкагольных напіткаў за апошнія некалькі гадоў у рэспубліцы расшырыўся з 37 да 90 назваў. Але шыпучых парашкоў на прылаўках яшчэ не было. Пакупнікі адразу ацанілі іх вартасці—не трэба валтузіцца з цяжкай шкляной тарай, ды і цана невысокая. У мінскім вытворчым аб'яднанні «Крыніца» ўжо манціруюцца магутныя лініі па выпуску сухіх фруктовых сокаў, можна будзе наладзіць такую вытворчасць і на іншых прадпрыемствах.**

УЗНАГАРОДЖАНЫ МЕДАЛЁМ

## З ПЛОЎДЗІЎСКАГА КІРМАШУ

Залаты медаль прывезлі з веснавога Міжнароднага плоўдзіўскага кірмашу прадстаўнікі Мінскай фабрыкі мастацкіх вырабаў. Такой высокай узнагародай адзначаны жаночыя блузкі, створаныя мастаком Лідзіяй Балбасавай.

Беларускімі вырабамі ўсё часцей цікавяцца замежныя камерсанты. Прадаюць іх Японіі, Аўстрыі, Даніі, Швецыі, Фінляндыі. Нядаўна спіс замежных спажыўцоў папоўніла сінгапурская фірма «Амарнас», з якой заключаны кантракт на пастаўку буйной партыі насцельнай бялізны. Развіваюцца сувязі з «Какусай каякі ко» — вядомай японскай фірмай, якая спецыялізуецца на выпуску швейнага абсталявання. Некалькі яе аўтаматаў, што дазваляюць дабіцца выдатнага знешняга аздаблення тканін, ужо эксплуатуюцца ў фабрычных цэхах. Гэта своеасаблівая прэлюдыя да намячаемай карэннай рэканструкцыі вытворчасці.

## ПРАЗ ТРЫ ГАДЫ ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АВАРЫІ

# *ШТО ТАМ, ЗА НЕБЯСПЕЧНАЙ РЫСАЙ*

**Пра тое, што адбываецца цяпер у 30-кіламетровай зоне Чарнобыльскай АЭС, ходзяць самыя неверагодныя чуткі. Гавораць, быццам пад уздзеяннем радыяцыі пачалі хутка размнажацца грызуны, і вось-вось іх полчышчы рушаць на новыя тэрыторыі. Іншыя сцвярджаюць, што за калючым дротам увогуле нічога жывога ўжо не засталося...**

**А як на самай справе? Што адбываецца за рысай адчужэння з лесам, зямлёй, жывёльным светам? Ці ёсць мутацыі, пра якія так многа размоў? Што можна чакаць у будучыні? Пра гэта расказвае навуковы супрацоўнік Інстытута заалогіі АН Беларусі Юрый ВЯЗОВІЧ.**

— У радыусе 6—7 кіламетраў вакол станцыі вельмі моцна пацярпеў лес, асабліва сосны і елкі,—гаворыць вучоны.—Пакуль няма цвёрдых гарантый, што гэты працэс не пойдзе далей. Мяркуецца, што за ўсе пасляаварыйныя гады загіне прыкладна тысяча гектараў лесу.

*— А што чакае іншыя лясы, якія таксама атрымалі немалую дозу апраменьвання?*

— У «параненых» лясах адразу ж пасля аварыі пачаўся працэс самаачышчэння. За тры тыдні палавіна радыенуклідаў з крон дрэў перайшла пад полаг лесу. Праз паўтара года іх размеркаванне стала такім: у падсцілцы прыкладна 90 працэнтаў, а ў глебе—4, у драўняным ярусе—6 працэнтаў. У залежнасці ад атрыманай дозы там цяпер адбываюцца розныя з'явы: напрыклад, на мяжы з мёртвым, так званым «рыжым», лесам стаяць і гіганцкія зялёныя сосны.

*— Выходзіць, адбылася стымуляцыя росту.*

— Так, у некаторых раслін з'явіўся гігантызм. Побач з нармальнымі сустракаюцца лісты дуба памерам у палавіну ліста лопуха, у акацыі ліставыя пласцінкі—з дзіцячую далоньку. А вось ліст таполі, які я сарваў у зоне: яго даўжыня 19 сантыметраў, шырыня—18. Расліны «адчуваюць» ужо 1 мілірэнтген у гадзіну, а гігантызм пачынае праяўляцца пры ўзроўні радыяцыі ад 4 да 7 мілірэнтген у гадзіну. Справа ў тым, што ў нармальных умовах развіцця раслінная клетка «ведае», колькі ёй «можна зрабіць дзяленняў», павышаная ж радыяцыя здымае «абмежавальнік» з гэтага працэсу. З'яўляюцца і іншыя змяненні: галінаванне пылковай трубкі, абуджэнне «спячых» пупышак, своеасаблівыя «ведзьміны мётлы» і ніцыя парасткі ў ліставых дрэў, змяняюцца формы лісця.

*— Звяры і птушкі, відаць, адчуваюць сябе ў такіх лясах не вельмі ўтульна?*

— Мы назіраем за ўсімі асноўнымі групамі наземных жывёл. Найбольш высокая канцэнтрацыя радыеактыўных рэчываў у арганізме ў вожыка і буразубкі звычайнай, а таксама ў рыжай палёўкі. Але нават пры некаторых генетычных адхіленнях, адзначаных у грызуноў у зоне, якіх-небудзь прыкметных змяненняў у іх стане і паводзінах пакуль не выяўлена. Гэта пацвярджаюць вынікі даследаванняў, праведзеных у нашым інстытуце. Аднак рабіць на іх падставе вывады аб «неўплыве» радыяцыі нельга. У пастаўленым яшчэ да Чарнобыля доследзе нават змены сарака пакаленняў мышэй аказалася недастаткова, каб вызначыць усю паўнату магчымых змяненняў і прыстасаванняў. Неабходны час. Эвалюцыйная адаптацыя — працэс доўгі, біялагічныя з'явы не паскорыш.

Што тычыцца птушак, якія жывуць у зоне, то лідзіруюць па назапашванню радыенуклідаў чыркі, крыжанкі і лысуха. На жаль, частка моцна «забруджаных» вадаплаўных птушак з Гомельскай і Магілёўскай абласцей мігрыравала на 100—200 кіламетраў у чыстыя раёны. Таму ў 1986 годзе і было забаронена летне-асенняе паляванне на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Цяпер паляванне на птушак адкрыта, але трэба абавязкова правяраць здабычу. Сярод млекакормячых найбольшае ўтрыманне радыеактыўных рэчываў адзначана ў дзікоў, лісіц, зайцоў, менш—у лася, аленя, казулі, воўка.

Анамалій у паводзінах звяроў, якія можна было б звязаць з захворваннямі радыяцыйнага характару, мы пакуль не заўважылі. Змяненні ж, што адбыліся ў іх колькасці і відавым складзе, выкліканы спыненнем гаспадарчай дзейнасці ў зоне. Напрыклад, здзічэлі шпакі, менш стала вераб'ёў у вёсках. Але ёсць пакуль і загадкі: у беларускай частцы зоны прыкметна ўпала колькасць маладняку ласёў і дзікоў.

*— Які стан насельнікаў рэк і азёр?*

— У донных адкладаннях узровень канцэнтрацыі радыеактыўных рэчываў даволі высокі. Аднак дакладна вызначыць дозу апраменьвання складана. Беларускія гідрабіёлагі і іхтыёлагі правялі абследаванне водных беспазваночных і рыб. Найбольш радыенуклідаў выяўлена ў целе рыб, злоўленых у рэках, менш—у азёрах і сажалках. Моцна забруджаны радыеактыўнымі рэчывамі драпежныя віды: шчупак і акунь. У 1986 годзе самым «брудным» па цэзію-137 аказаўся судак. Але праз год накапленне радыенуклідаў у рыбы паменшылася амаль у 10 разоў.

Даследаванні ў зоне адчужэння будуць прадоўжаны,— сказаў у заключэнне Ю. Вязовіч. — Па ініцыятыве Беларускага дзяржаўнага камітэта па ахове прыроды і АН БССР на плошчы 140 тысяч гектараў створаны Палескі радыяцыйна-экалагічны запаведнік.

Аляксандр КРЫЖАНОЎСКІ.

# ЛЮБОЎ І ТРЫВОГА МАЯ, ПРЫПЯЦЬ










**Хто хоць аднойчы пабываў у Прыпяцкім запаведніку, у таго назаўсёды застанецца ў сэрцы чароўнасць гэтага краю, яго саснякоў і дубраў, рачулак і заліўных лугоў. Раскінуўшыся больш чым на 60 кіламетраў з усходу на захад, на 24 — з поўначы на поўдзень, ён з'яўляецца вялікай натуральнай лабараторыяй, дзе вось ужо амаль дваццаць гадоў вучоныя стараюцца захаваць тыповы для беларускага Палесся ландшафтна-гідралагічны комплекс, прадстаўнікоў флоры і фауны. А іх тут вялікае мноства: каля 830 відаў раслін, больш за 250 — птушак, больш за 40 — жывёл.**

**Пакуль... Таму што ў свеце, дзе ўсё ўзаемазвязана, вельмі нялёгка зберагчы запаведнік як эталон Палесся. А яно ўжо падверглася самай буйнамаштабнай меліярацыі. За гады асушэння ў адзінаццаць разоў скарацілася колькасць птушак, знікла больш за 70 відаў раслін, каля ста знаходзяцца пад пагрозай... Пойма Прыпяці для многіх звяркоў, птушак, рыб, млекакормячых становіцца апошнім прыстанкам. Але ці надзейны ён! Усё будзе залежаць ад людзей, калгасных гаспадарак, якіх тут нямала... Не трэба забываць яшчэ, што побач — мёртвая «чарнобыльская зона».**

**НА ЗДЫМКАХ: трыццаць пяць гадоў працуе ў Азёрным лясніцтве майстар І. МЕЛЯШЧЭНЯ; вынік чалавечай дзейнасці — «мёртвая» вада і берагі ракі Ствіга пасля скіду вады з польдэраў і адходаў з ферм; супрацоўнікі лабараторыі меліярацыі тарфяных глеб Беларускага навукова-даследчага інстытута меліярацыі і воднай гаспадаркі А. ГОЛАД, А. ВАЙТКО і Я. ХМЯЛЬНІЦКАЯ (злева направа) у час назіранняў на лізіметрычным палігоне; на жывёлагадоўчым комплексе калгаса «Новае жыццё» Жыткавіцкага раёна ветурач І. КЛАЧКО, рабочыя А. ЗЫКЕВІЧ і Т. ЛЯБЕДЧАНКА і галоўны аграном К. КОМАР.**

**Фота У. МЯЖЭВІЧА.**

## *СКАРАЧЭННЕ УЗБРОЕНЫХ СІЛ СССР: ДВА БАКІ СПРАВЫ*

# ЧАС ПЛАЦІЦЬ ДАЎГІ МІРУ

**У апошнія гады адбываюцца буйныя пазітыўныя змяненні на міжнароднай арэне ў справе ўмацавання міру. Узраслі рэальныя надзеі, што вайну можна прадухіліць. У народаў свету мацнее ўпэўненасць, што мір будзе заснаваны не на пастаянным проціборстве, не на ядзернай пагрозе, як гэта было на працягу многіх дзесяткаў гадоў, а на ўзаемаразуменні, зніжэнні ваеннай напружанасці, скарачэнні ўзброеных сіл і ваенных расходаў, шляхам палітычных дыялогаў, перагавораў.**

**Рэальны крок у такім важным напрамку зроблены СССР, які прыняў рашэнне ў аднабаковым парадку скараціць свае Узброеныя Сілы на 500 тысяч чалавек, вывесці значную частку іх з тэрыторый саюзных краін.**

**Аб гэтым карэспандэнт «Голасу Радзімы» Яўген ТУРАЙКЕВІЧ гутарыць з членам Ваеннага савета, начальнікам палітупраўлення Беларускай ваеннай акругі генерал-лейтэнантам Мікалаем БОЙКАМ.**



**— 15 студзеня 1986 года Савецкі Саюз, як вядома, аб'явіў праграму будаўніцтва бяз'ядзернага міру. Па ініцыятыве нашай краіны затым быў падпісаны Дагавор аб ліквідацыі ракет сярэдняй і меншай дальнасці. І вось новы крок. У снежні мінулага года Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў, выступаючы ў ААН, аб'явіў аб скарачэнні Узброеных Сіл СССР на 500 тысяч чалавек, вывадзе значнай часткі воінскіх падраздзяленняў з тэрыторый сацыялістычных краін. Як вы, Мікалай Макаравіч, расцэньваеце гэты крок?**

— Каб чалавецтва адчула паварот да новага палітычнага мыслення ў рэальнай палітыцы, патрэбны і рэальныя пацвярджэнні выказаных ідэй. Слоў аб бяспецы свету сказана дастаткова, цяпер неабходны канкрэтныя справы. Сіла нашай знешняй палітыкі, яе пераканаўчасць у тым і заключаецца.

Наша краіна ў аднабаковым парадку вывела некаторую частку войск, што дыслацыраваліся на тэрыторыі ГДР тры гады назад, спыніла на працяглы тэрмін ядзерныя выпрабаванні ў ваенных мэтах, мы вярнулі свае войскі з Афганістана на Радзіму і вось цяпер зрабілі адказны і вельмі значны крок — паўмільённае скарачэнне арміі, якое цяжка прыменшыць любой прапагандысцкай кампаніі. Для многіх і многіх разумных людзей на планеце стала ясна, што Савецкі Саюз сур'ёзна і надоўга выбірае курс, абвешчаны ў студзені 1986 года М. С. Гарбачовым. У ім сфакусавана ўсё: і асэнсаванне згубнасці далейшай гонкі ўзбраенняў, і прыклад добрай волі, і сучасныя погляды на ўзброеныя сілы, будаўніцтва якіх грунтуецца на прынцыпах абароннай дастатковасці, не на колькасных, а на якасных параметрах.

**— Савецкія людзі выказваюць зусім абгрунтаваную трывогу, што такое скарачэнне нашых войск можа паўплываць на магутнасць Узброеных Сіл СССР... Напрошваецца пытанне, а што ўзамен?**

— Вядома, любое адніманне змяншае зыходную суму, калі ацэньваць яго як арыфметычнае дзеянне. Але мы маем справу з буйнымі структурнымі змяненнямі ва Узброеных Сілах, якія адбываюцца разам са скарачэннем колькасці войск. Я б параўнаў працэс з крышталізацыяй, дзе адарванне лішніх элементаў вядзе да ўмацавання сістэмы.

Безумоўна, нашы (маю на ўвазе ваенных) клопаты аб умацаванні абараназдольнасці Радзімы павінны быць падвоены. Скарачэнне колькасці войск ставіць ваенныя кадры ва ўмовы, калі для падтрымання ўзроўню баявой гатоўнасці, дастатковага для адбіцця магчымай агрэсіі, трэба лепш скарыстаць унутраныя рэзервы. Вось чаму ў далейшым рыхтоўка войск будзе бу[illegible]вацца па новых праграмах, што прадугледжваюць інтэнсіфікацыю вучэбнага працэсу.

**— Як відаць з публікацый у капіталістычнай пр[illegible] там раздаюцца галасы, ш[illegible] скарачэнне Узброеных Сіл СССР, як гаворыцца, кропля ў моры. Маўляў, Савецкі Саюз і пасля гэтага па сваёй магутнасці будзе намнога перавышаць блок НАТА.**

— У нашым друку ў поўным аб'ёме прыведзены даныя аб суадносінах колькасці войск і ўзбраенняў паміж АВД і НАТА, якія паказваюць, што Савецкі Саюз не мае большага патэнцыялу наступлення, чым НАТА. Наадварот, нашу пастаянную заклапочанасць выклікаюць амерыканскія ваенныя базы вакол СССР, авіяносныя ўдарныя групы. Ваенна-марскія сілы ЗША істотна перавышаюць савецкі Ваенна-Марскі Флот. Усё большую небяспеку набываюць крылатыя ракеты марскога базіравання, не спыняецца распрацоўка крылатых ракет паветранага базіравання з выкарыстаннем тэхналогіі «Стэлс», якія з'яўляюцца зброяй першага ўдару.

У гэтых умовах Савецкі Саюз усё ж ідзе на ліквідацыю 10 000 танкаў і 800 самалётаў, гэта значыць такіх сродкаў, якія могуць процістаяць ударным сілам.

Зразумела, перш чым рашыцца на такі крок, наш бок заглядваў наперад і ўлічваў магчымыя вынікі разбраення, як яны адаб'юцца на абараназдольнасці краіны. Але ўсякі прафесійны ваенны ведае, што тэорыя суадносін процілеглых сіл у нейкай ступені адносная для прагнозаў вядзення баявых дзеянняў, калі такія пачнуцца. У НАТА больш самалётаў і верталётаў, а АВД мае перавагу ў танках. Які ж з бакоў мацнейшы? Але каб не быць галаслоўным, спашлюся на даныя з Заявы Камітэта міністраў абароны дзяржаў — удзельніц Варшаўскага Дагавора «Аб суадносінах колькасці ўзброеных сіл і ўзбраенняў Арганізацыі Варшаўскага Дагавора і Паўночнаатлантычнага саюза ў Еўропе і прылягаючых акваторыях», якія апублікаваны ў газеце «Красная звезда» 31 студзеня 1989 года. Сапраўды, па колькасці танкаў АВД перавышае НАТА амаль у два разы, маючы 59 470 адзінак супраць 30 690. Але баявых верталётаў у АВД у два разы менш — 2 785 адзінак супраць 5 270. АВД мае два авіяносцы, а ў НАТА іх 15. Больш чым у дзесяць разоў НАТА апярэджвае АВД па колькасці караблёў з крылатымі ракетамі, амаль у чатыры разы па колькасці дэсантных караблёў. На сёння колькасць узброеных сіл АВД у Еўропе 3 573,1 тысячы чалавек, а адпаведна ў НАТА — 3 660,2 тысячы.

Тым не менш усе дзяржавы Варшаўскага Дагавора скарацілі свае ўзброеныя сілы на 556 тысяч 300 чалавек.

**— Цяпер другі бок справы, іншыя праблемы. Нашы ўнутраныя. Даводзілася размаўляць з савецкімі ваеннаслужачымі. Той-сёй, асабліва сярод афіцэрскага саставу, выказвае трывогу, што пад відам скарачэння будзе праходзіць нейкая «чыстка», пазбаўленне ад непажаданых для камандавання кадраў і г. д. Дык каго ж, у першую чаргу, закране скарачэнне?**

— Звальненню ў запас падлягаюць толькі афіцэры і прапаршчыкі, якія выслужылі вызначаны тэрмін. Нагадваю, раней многім ваеннаслужачым, якія па сваёй прафесіянальнай і фізічнай падрыхтоўцы адпавядалі займаемым пасадам, дазвалялася працягваць службу звыш устаноўленага пенсійнага ўзросту да пяці гадоў. Вось чаму колькасць ваеннаслужачых ва ўзросце ад 45 да 50 і больш гадоў даволі вялікая.

У іншыя ваенныя вышэйшыя навучальныя ўстановы могуць перайсці курсанты тых ваенных вучылішчаў, якія закрываюцца.

Ні аб якой «чыстцы», сцвярджаю гэта з адказнасцю, не можа быць і гаворкі. Таму што працэсы дэмакратызацыі і публічнасці, якія шырока разгарнуліся ў грамадстве, увайшлі і ў наша армейскае жыццё, а яны несумяшчальныя са свавольствам, ганеннямі.

У атэстацыі, а ёй падлягаюць усе афіцэры, актыўна ўдзельнічаюць партыйныя арганізацыі, афіцэрскія сходы, якія цяпер адраджаюцца ў нашых воінскіх калектывах, у абстаноўцы адкрытасці і клопату пра лёс чалавека праходзяць усе працэдуры скарачэння.

Скажу больш, кіраўніцтвам Узброеных Сіл робіцца ўсё, каб утрымаць ад неабдуманых крокаў маладых афіцэраў, якія, пагарачыўшыся, падалі рапарты на звальненне.

Палітычнае кіраўніцтва імкнецца, каб усе паліторганы, асабіста іх начальнікі, самым уважлівым чынам падыходзілі да вырашэння праблем звальнення. Не хачу сцвярджаць, што мы цалкам застрахаваны ад чыноўніцкіх, абыякавых адносін да людзей, але расправы над непажаданымі не дапусцім. Тут і грамадскасць напагатове, і партыйныя арганізацыі, і друк. Словам, вопыт папярэдніх скарачэнняў улічваецца.

**— 500 тысяч чалавек — гэта сапраўды вялікая армія. Яе трэба працаўладкаваць, а таксама іх жонак. Дзяцей — у сады, школы. Відаць, ужо цяпер такое пытанне вырашаецца на самым высокім узроўні, пакуль ідзе надрыхтоўчы перыяд?**

— Салдаты і сяржанты расфарміраваных часцей, як звычайна, пойдуць у запас, выслужыўшы ўстаноўленыя тэрміны, яны вернуцца да сваіх спраў. А вось афіцэрам і прапаршчыкам больш складана. Таму Міністэрствам абароны сумесна з Дзяржкампрацы СССР распрацаваны план перападрыхтоўцы звальняемых ваеннаслужачых і членаў іх сямей, за выкананнем якога гэтымі ж органамі наладжваецца кантроль.

Днямі Савет Міністраў СССР прыняў пастанову аб пенсійным забеспячэнні ваеннаслужачых, якія звальняюцца па скарачэнню, але не маюць поўнай выслугі гадоў. Гэта значыць, практычна кожны з іх атрымае пенсію і ўладкуецца на работу ў звычайным парадку і па аргнабору. Прадугледжваецца і абавязковая дапамога ім жыллём, мэбляй і т. п.

**— Многія ваеннаслужачыя маюць сярэднюю, сярэднетэхнічную і вышэйшую адукацыю. І яны, несумненна, спатрэбяцца арганізацыям, прамысловым прадпрыемствам, установам.**

— Вядома, у народную гаспадарку прыйдуць людзі не толькі адукаваныя і падрыхтаваныя. 80 працэнтаў афіцэраў нашай акругі маюць дыпломы інжынераў ці вышэйшую гуманітарную адукацыю. Яны адрозніваюцца дысцыплінаванасцю, актыўнай грамадзянскай пазіцыяй, выхаванымі армейскай службай.

**— Звольненыя ў запас па скарачэнню самі выберуць месца жыхарства і работы, ці ім будзе нешта прапанавана?**

— Афіцэры і прапаршчыкі, хто праходзіць службу ў гарадах, у большасці забяспечваюцца жыллём да моманту звальнення. Гэта асабліва характэрна для Беларусі. Тут савецкія і партыйныя органы з разуменнем ставяцца да жыллёвых праблем ваеннаслужачых, на падставе адпаведных законаў штогод выдзяляюць кватэры для афіцэраў і прапаршчыкаў у сталіцы, абласных і раённых цэнтрах. Але пытанне з жыллём усё-такі застаецца вострым. На яго вырашэнне сёння накіраваны намаганні цэнтральных органаў і ведамстваў Міністэрства абароны, ваенных саветаў акруг. У бліжэйшы час толькі для звальняемых па скарачэнню будзе пабудавана некалькі тысяч кватэр. Іх заселяць тыя, хто служыў за мяжой і ў аддаленых гарнізонах. Зразумела, і работу былыя ваеннаслужачыя будуць шукаць па месцу прапіскі. ЦК КПСС і ўрад абавязалі мясцовыя органы ўлады прымаць неадкладныя меры па іх часоваму размяшчэнню і прапісцы незалежна ад памераў жылой плошчы на перыяд забеспячэння жыллём ва ўстаноўленым парадку.

**— Дарэчы, пра жыллё. Як вядома, у нашай краіне пакуль з ім не так проста, пытанне даволі вострае. Ці будуць карыстацца нейкімі льготамі звольненыя ў запас ваеннаслужачыя, ці не выкліча гэта незадаволенасць у грамадзянскага насельніцтва?**

— Вялікую частку жылля для ваеннаслужачых узводзяць будаўнічыя арганізацыі Міністэрства абароны. Астатнія забяспечваюцца кватэрамі на падставе даўно прынятых законаў, якія, на жаль, не заўсёды дакладна выконваліся. Ва Указе Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 21 сакавіка гэтага года «Аб скарачэнні Узброеных Сіл СССР і расходаў на абарону на працягу 1989—1990 гадоў» гаворыцца аб абавязках мясцовых Саветаў народных дэпутатаў па працаўладкаванню і забеспячэнню жыллём звольненых у запас ці ў адстаўку ваеннаслужачых. Гэта значыць, аб выкананні ўжо прынятых законаў. Так што на грамадзянскіх прадпрыемствах і ва ўстановах чэргі тых, хто прэтэндуе на атрыманне кватэр, даўжэйшымі не стануць. У задавальненні попыту на жыллё мы арыентуемся больш на ўнутраныя рэзервы і магчымасці Міністэрства абароны, якое, дарэчы, днямі ўзяло на сябе абавязацельства аплачваць палавіну кошту кааператыўнага жылля для афіцэраў і прапаршчыкаў.

**— Мы гаварылі аб скарачэнні людскіх рэсурсаў Узброеных Сіл СССР. Але ж, напэўна, выслабаніцца і вялікая колькасць тэхнікі. Як з ёю: стане на кансервацыю ці будзе выкарыстана па-іншаму?**

— Як паведамлялася ўжо ў друку, Міністэрства абароны перадало ў Дзяржзабеспячэнне СССР пералік матэрыяльных сродкаў на суму больш паўмільярда рублёў. Хутка ў народную гаспадарку паступяць тысячы адзінак аўтатэхнікі з камплектамі запасных частак, 2,6 тысячы сродкаў запраўкі, маслаў і змазак на некалькі мільёнаў рублёў, якім, я ўпэўнены, абрадуюцца на вёсцы, мноства мікрасхем, транзістараў, дыёдаў. Наша акруга перадасць Міністэрству сувязі БССР некаторыя віды тэлефоннай і радыёапаратуры. Словам, гэта ў нейкай меры пакрые дэфіцыт таварнага рынку ў краіне.

**— І апошняе. Не маглі б вы, у рамках дапушчальнага, расказаць пра тое, калі і як будзе адбывацца скарачэнне войск на тэрыторыі БВА?**

— У тыя ж тэрміны, што і ва ўсіх Узброеных Сілах. Практычна скарачэнне пачалося ўжо ў маі гэтага года. Акрамя таго, на тэрыторыі акругі будзе адбывацца расфарміраванне некаторых часцей, якія выводзяцца з-за мяжы.

Змяненне арганізацыйна-штатных структур нашых часцей у адпаведнасці з палажэннямі новай абароннай дактрыны, выкліча вялікія кадравыя перамяшчэнні. Але гэта, калі гаварыць аб праблеме ўвогуле. А ў прыватнасці, даводзіцца вырашаць лёсы людзей, шукаць аптымальныя варыянты перамяшчэнняў афіцэраў і прапаршчыкаў, каб справа не пацярпела і каб улічыць асабістыя і сямейныя інтарэсы. Думаю, такі падыход адпавядае мэтам і духу перабудовы.

# EN FORMACION EL PEN CLUB SOVIETICO

LA UNIÓN Soviética nunca perteneció a los países con filiales del PEN Club, Federación Internacional de poetas, ensayistas, prosistas, redactores y traductores. El congreso de esta organización, que se celebra en Maastricht (Holanda), examina el tema de la creación del PEN Centro soviético y su ingreso al PEN Club internacional.

A finales de los años 60 el PEN Club internacional hizo intentos de atraer a sus actividades a los colegas soviéticos, pero topó con la resistencia de los dirigentes de la Unión de Escritores. Esa dirigencia no estaba dispuesta a otorgarle independencia al PEN Club soviético. Ahora tal obstáculo ya no existe. Francis H. King, actual presidente del PEN Club internacional, que acaba de visitar Moscú, recibió garantías especiales, al respecto de parte de Vladímir Kárpov, primer secretario de la Unión de Escritores de la URSS.

Sin embargo, las dificultades no se hicieron esperar. "Literatúrnaya gazeta" publicó información sobre la organización del grupo instituyente, anexo a la Unión de Escritores, para crear el PEN Centro soviético. La composición de este grupo suscitó la crítica de 26 escritores, entre éstos Iskander, Pristavkin, E. Popov, L. Chukóvskaya, Okudzhava y otros. Promovieron una declaración subrayando que la afiliación en el PEN Club imponía alta responsabilidad moral y demandaba la disposición a participar en defensa de derechos. Se requiere, además, renunciar públicamente a las posiciones anteriores, si éstas se materializaban en la persecusión de personas por motivos ideológicos. Los autores de la declaración ven en el ingreso al PEN Club, ante todo, la forma de asumir altos compromisos morales, que en cualquier momento pueden exigir de todo integrante soviético del PEN Club la firmeza y valentía en la defensa de sus principios fundamentales.

La dirigencia del PEN Club internacional propuso un arreglo constructivo al esclarecer que si uno presenta la solicitud de ingreso al PEN Club, suscribe su carta y reconoce automáticamente que lamenta haber comentido en el pasado algo contradictorio a los principios de esta carta y abandona las posiciones de antes. Lógicamente, la afiliación al PEN Club impone a su nuevo integrante el compromiso también en el futuro de guiarse por los principios de la carta, independientemente de los cambios políticos que se den en el país.

Sobre tal base se logró el acuerdo. La delegación en Maastricht, en nombre del grupo unificado de escritores soviéticos, solicitaron registrarlo como PEN Centro soviético.

# ARGENTINA-RUSIA: VINCULOS COMERCIALES DIRECTOS

**— No hemos venido a la URSS como mercaderes a vender lo que nos sobra y al mejor precio posible. Hemos venido a trabajar juntos para resolver problemas que cada uno de nosotros tenemos en nuestros países. En cada caso asumiremos un mecanismo que mejor ayude a ambas partes.**

**Esto lo dijo en una rueda de prensa realizada en Moscú José BORDON, gobernador de la Provincia de Mendoza y secretario de Relaciones Internacionales del Consejo Nacional del Partido Justicialista de Argentina. La delegación encabezada por él visitó la URSS cumplimentando una invitación del Consejo de Ministros de la Federacién Rusa.**

— Somos exportadores de productos alimenticios y hemos convenido en continuar exportando estos productos a la Unión Soviética. Pero mucho más nos interesa exportar equipos industriales para la alimentación. Hemos firmado un contrato por 30 millones de dólares a ser ampliado a 50 millones en tres años. Y estamos muy interesados en constituir empresas mixtas para eloborar para el mercado soviético materias primas alimenticias que producen los soviéticos en su país.

Los empresarios de Mendoza hicieron varias propuestas concretas para crear empresas mixtas en la Federación Rusa, las cuales fabricarán productos alimenticios con el empleo de la tecnología argentina. La Federación Rusa, por su parte, suministrará maquinaria y equipos para desarrollar en la provincia la energética y la extracción de minerales.

Durante la visita fue firmado un protocolo de colaboración económica y cultural entre la Federación Rusa y la Provincia de Mendoza en los marcos de los acuerdos existentes entre la URSS y Argentina. José Bordón llamó la atención al carácter sin precedentes del hecho de que una provincia argentina y una de las repúblicas federadas soviéticas hayan concertado acuerdos económico-comerciales directos, ligando este suceso con el proceso de la perestroika que permitió iniciar la descentralización de la actividad económica exterior de la URSS.

— Yo soy titular de Filosofía Politica en la Universidad. Y hace dos años que incluí el punto "perestroika" con textos concretos del señor Gorbachov —dijo José Bordón—. Pero no me considero un experto en este tema. Quisiera decir que nosotros vemos con mucha simpatía en la Argentina estas palabras: "glásnost", "perestroika" y "democratización". Vemos como muy positivo el aporte a la paz mundial que ha planteado la perestroika en su expresión internacional. Basándome en lo que ví en la URSS estos días, creo que la perestroika ha sido exitosa en el plano internacional y en el institucional interno. Hay dificultades en la economía de la Unión Soviética. Pero ustedes saben que la economía siempre es la más conservadora en cuanto a los cambios. Pero estamos trabajando juntos no para interferir en los procesos políticos mutuos, que deberán ser soberanos, pero si, para mejorar las condiciones de vida de nuestros dos pueblos.

**Evgueni POCHUEV**

## "TENGO YA NOVENTA, MAS MI ANDAR ES LIGE[illegible]..."

**Este es el titulo del documental de la realizadora y camarógrafa Marina Goldóvskaya, dedicado a la hermana de Marina Tsvetáeva.**

En este hecho está arraigado el estereotipo que resulta destruido en el filme de Goldóvskaya: Los noventa años y pico de Anastasía Tsvetáeva nos interesan no porque ella sea la hermana del "gran poeta" (como se sabe. Marina no reconocía la palabra "poetisa"). Esta película, al igual que "Poder Soloviético" (obra anterior de Goldóvskaya), hace que uno se ponga a pensar en el calvario de los intelectuales rusos.

"Trozos de lo hecho añicos": asi define la propia autora el sentido de su filme.

Tras recordar su arresto (a fines de los años 30), al cual le siguieron 10 años de campos de concentración y 9, de destierro. Anastasía Tsvetáeva, al parecer, sólo lamenta que en las "entrañas" del NKVD para siempre desaparecieron sus obras literarias: narrativa, traducciones, estudios filológicos... No obstante: "Tengo noventa años, mas mi andar es ligero aún...". Estos versos de Anas[illegible]ía Tsvetáeva no existen ap[illegible] de su aspecto actual, pese a que ella no hizo un pacto con Mefistófeles y no puede mostrar al mundo rasgos de su juventud recuperada.

La "ruta abrupta" de Anastasía Tsvetáeva pasó lejos del campo de concentración de Solovki, en otra dimensión del GULAG, pero igual que los protagonistas de "Poder Soloviético" ésa determina el fondo genético moral del país, el cual intentaron aniquilar, pero no lo lograron.

Qué exacto es el verso de Evguenia Kúnina, amiga de Anastasía Tsvetáeva: "La que vivió más fue el alma...".

¿Cómo el alma logró hacerlo? Este es el interrogante al cual no llego a hallar la respuesta después de haber visto el filme.

**Borís BERMAN**



*En bibliotecas, colecciones privadas hay libros que presentan gran interés a los especialistas, nuseos y bukinistas. Ahora se tiene la posibilidad de adquirir estas ediciones. Desde el año pasado en Bielorrusia se realizan subastas de libros. Una de ellas se efectuó hace poco en Minsk en la Casa del literato.*

*Los museos, las bibliotecas académicas han comprado: "Archivo bielorruso de diplomas antiguos" (año 1824), compendios de artículos, documentos, memorias personales de los participantes en la lucha para establecer el Poder Soviético en Bielorrusia en los años 1917—1919, "Canciones populares bielorrusas" (año 1904) Tradiciones y leyendas de Minsk (año 1901). A los pushkinistas les interesaron las ediciones de las obras del poeta del principio de este siglo y el libro editado en San Petersburgo en la imprenta de Suvorin en el año 1900 sobre el duelo de Pushkin y Dantés y su proceso en el tribunal militar en el año 1837.*

*En la foto: vendedoras de la librería № 59 de Minsk E. Apanasievich (a la izquierda) y O. Artimovskaya con libros raros destinados para la subasta.*

*Foto: V. SHUBA*

# ...EN LA VIA DE RESERVA

Evgueni Grigóriev terminó de escribir el guión de "Nuestro tren blindado" en 1968. Sin embargo, el filme con este guión fue filmado 20 años más tarde. Lo rodó en los Estudios Bielorrusos el realizador Mijaíl Ptashuk. A primera vista, el título del largometraje parece algo arcaico. ¿De qué tren blindado se trata? Los sucesos de la película se desarrollan entre el 1º y el 9 de mayo de 1966.

Nikolái Kuznetsov trabajó toda su vida, peleó dignamente en la guerra y, después de ésta sirvió por algún tiempo como guardián en un campo de concentración. Kuznetsov era militar y no podia desobedecer las órdenes que le impartían. Cuando en marzo de 1953 los reclusos "se amotinaron", él dio la orden de disparar contra ellos, ateniéndose al pie de la letra a las instrucciones. Luego de 13 años Kuznetsov encontró a un hombre que había presenciado aquellos sucesos y que despertó sus recuerdos. El mencionó aquel fusilamiento en presencia del hijo de Kuznetsov. El ex guardián se puso a demostrarles a los presentes, a su hijo y, ante todo, a sí mismo, que nada pesaba sobre su conciencia. El no desea que retorne el pasado, pero cree que en aquel entonces tal orden era **necesaria**, y él siempre hacía lo que era necesario. Vladimir Gostiujin, guionista, realizador y actor, analiza la vida de este hombre fuerte e íntegro, por el cual la época pasó como una aplanadora, aplastando y mutilando su alma. Su alma no sucumbió, mas quedó gravemente herida. Aquel duro encuentro al cabo de 13 años removió el pasado, pero parece que sólo ahora los alarmantes pensamientos comenzaron a atormentar a Kuznetsov. Entonces, ¿cuándo? ¿En 1956? Se esforzaba por expulsar de su mente estas ideas raras, pero volvía a caer en la meditación.

¿Por qué Kuznetsow fastidia tanto con sus relatos sobre su servicio en el campo de concentración estalinista, argumentando que, sea como fuera, ¡él tenía la conciencia limpia!? Porque le resulta insoportable vivir con la conciencia sucia, mientras que le persiguen con creciente fuerza las dudas acerca de su pureza.

Son dolorosas las últimas secuencias de la película, mostrando la más absoluta soledad del hombre sumido en las meditaciones filosóficas, la soledad que vino a azotarlo en el Día de la Victoria, su día tan querido, que siempre fue fiesta de unidad y hermandad humana. La terrible soledad que deja una sola solución: el suicidio. La muerte de Kuznetsov es otro testimonio de lo difícil que es abandonar los fantasmas del pasado, con sangre y dolor, en la tormentosa oposición a la adormecida y alienante indiferencia.

Pero estos fantasmas se tornan reales y nos estremecen los sentidos cuando, tratando de hallar la esencia, Kuznetsov anda en busca de viejos conocidos, testigos y cómplices de **aquella** vida suya.

Un periodista modesto, apacible (actor Alexandr Filipenko), quien comprende y lo ve todo, pero se atiene indeclinablemente al principio de "no te metas", está completamente convencido de que fuera quien fuere —Stalin, Jruschov o Brézhnev—, en nuestro país jamás se abrirán las ventanas de par en par, y por lo tanto no hace ningún esfuerzo para intentar abrirlas.

Alexéi Petrenko se muestra terriblemente veraz y fantasmagórico en el papel de un militar retirado, participante en la guerra, quien está loco en su fe sobre lo correctos —¡incluso santos!— que eran los tiempos pasados, y quién se afana frenéticamente, para que estos tiempos vuelvan.

Y. finalmente, el personaje, interpretado por Mijaíl Uliánov con el odio recalcitrante de un ex jefe de campo de concentración, y ahora propietario de una casa, coronel retirado, el cual ve la raiz de todos los males en el hecho de que Stalin y Beria resultaran poco perspicaces y demasiado tiempo se dedicaran a sí mismos en vez de preocuparse de sus sucesores, pero quien espera su hora con tranquila seguridad.

Todos ésos son brillantes retratos sociales. Por cierto, el tiempo hizo lo suyo, y ahora son pocos los hombres de tales rasgos. Pero, ¿acaso no sobran sus sucesores espirituales modernizados que se han adaptado a las condiciones actuales? Comprendemos cada vez más claro cuán largos son los tentáculos de la ideología estalinista, el sistema de la existencia que ésta engendró. Comprendemos, viendo y percibiendo con todas nuestras fibras, qué resistencia debe superar el proceso de la renovación.

Lamentablemente, el título de la película no suena nada arcaico. Como tampoco ha sido desmantelado para chatarra el tren blindado de esta gente. Realmente está en la vía de emergencia.

**Konstantín SCHERBAKOV**

**Redactor de la "Página en español": Demetrio OKULIK.**

*СТАРОНКІ МІНУЛАГА*

# МІНСКАЕ ТАВАРЫСТВА АМАТАРАЎ ПРЫГОЖЫХ МАСТАЦТВАЎ

Калі ідзеш дварамі ад сталічнага магазіна «Падпісныя выданні» на вуліцу К. Маркса, наўрад ці звернеш увагу на дом № 17. А між тым гэта адзін з нямногіх у горадзе дарэвалюцыйных будынкаў. У ім, на рагу ранейшых Падгорнай вуліцы і Захар'еўскага завулка, размяшчалася з канца 1899 года Мінскае таварыства аматараў прыгожых мастацтваў: да гэтага яно знаходзілася ў будынку Грамадскага сходу, які, на жаль, не захаваўся.

Таварыства было створана ў лістападзе 1898 года мінскай дэмакратычна настроенай інтэлігенцыяй. А непасрэднымі яго арганізатарамі выступілі пісьменнік Я. Чырыкаў, які служыў у аддзеле кантролю Лібава-Роменскай чыгункі, і старшы рэвізор акцызнай управы А. Аляксандраў, у свой час ён быў старшынёй аналагічнага таварыства ў Саратаве. Пераехаўшы ў 1898 годзе ў Мінск, Аляксандравы пазнаёміліся з сям'ёй Чырыкавых, якія жылі тут ужо тры гады. Імя Чырыкава, вядомага пісьменніка і драматурга, ставілася ў той час у адзін рад з імёнамі Горкага і Верасаева. Падтрымліваў ён кантакты і з мясцовай інтэлігенцыяй. У гасціннай сям'і Чырыкавых бывалі яго саслужывец па Лібава-Роменскай чыгунцы, вядомы марксіст С. Мяржынскі, Ларыса Косач (Леся Украінка), Адам Багдановіч, беларускі этнограф і фалькларыст, бацька Максіма Багдановіча. У час гарачых літаратурных гутарак, мабыць, і нарадзілася ідэя стварэння таварыства аматараў прыгожых мастацтваў. Першым яго старшынёй стаў А. Аляксандраў. Гэта быў захоплены чалавек, які аддаваў рабоце ў таварыстве ўвесь свой вольны час. Такой была і жонка, Вера Данілаўна, дачка вядомага пісьменніка Д. Мардоўцава. Яна сама пісала апавяданні, чытала лекцыі па мастацтву.

Фактычна таварыства пачало работу ў канцы студзеня 1899 года, калі былі пройдзены ўсе афіцыяльныя інстанцыі: зацверджаны статут і атрыманы дазвол губернатара. Пачатак работы таварыства супаў з падрыхтоўкай перадавой грамадскасці Расіі да святкавання стагоддзя з дня нараджэння А. Пушкіна. Для выпрацоўкі праграмы правядзення святкавання ў сакавіку 1899 года пры таварыстве была створана спецыяльная камісія. Яна, дарэчы, сумесна з таварыствам мінскіх урачоў прапанавала адкрыць у горадзе грамадскую бібліятэку імя Пушкіна. Абсталяванне і першапачатковую арганізацыю бібліятэкі ўзяў на сябе А. Аляксандраў. Аматары выяўленчага мастацтва ўключыліся таксама ў агульнарасійскі збор сродкаў на ўзвядзенне помнікаў А. Пушкіну і А. Астроўскаму.

Пушкінскія ўрачыстасці, якія рыхтаваліся пры актыўным удзеле камісіі таварыства, пачаліся 25-га мая публічнымі чытаннямі твораў паэта ў гарадскім і летнім тэатрах. Урачысты вечар адбыўся на наступны дзень у будынку гарадскога тэатра. Іграў аркестр, хор таварыства выконваў кантаты ў гонар паэта. Член гарадской управы А. Хаванскі сказаў урачыстую прамову, А. Аляксандраў прачытаў верш Лермантава «На смерць паэта», які быў сустрэты гарачымі апладысментамі і крыкамі «біс». Вялікую цікавасць выклікалі «жывыя карцінкі» «Пушкін у Міхайлаўскім» і «Каўказскі нявольнік», выкананыя членамі таварыства. Сродкі, сабраныя ад правядзення вечара, пайшлі на ўладкаванне бібліятэкі. Урачыстасці завяршыліся аматарскімі пастаноўкамі «Паненка-сялянка» і «Станцыйны даглядчык». Збор ад спектакля прызначаўся пагарэльцам горада Ігумена (Чэрвеня).

Дзейнасць таварыства прыцягнула ўвагу гараджан. Праз год у ім налічвалася больш за 400 членаў. У складзе таварыства дзейнічалі 4 секцыі: літаратурная, драматычная, мастацкая, музычная.

Асаблівай папулярнасцю карысталася літаратурная секцыя. На яе пасяджэннях абмяркоўваліся творы прагрэсіўных рускіх і замежных пісьменнікаў, рабіліся разборы сучасных часопісаў, адзначаліся юбілеі вядомых пісьменнікаў. З лекцыямі выступалі і прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі: Чырыкаў, выкладчыкі мужчынскай гімназіі Зубакін, Сазановіч, Аляксандраў, запрашаліся лектары з Пецярбурга і Масквы. На літаратурных серадах выступілі вядомыя крытыкі, гісторыкі літаратуры, публіцысты: Ю. Айхенвальд, З. Венгерава, С. Венгераў, П. Сакуліч, В. Богараз. На пасяджэнні секцыі немагчыма было трапіць. Газета «Северо-Западный край» пісала ў 1906 годзе: «Савет старэйшын таварыства аматараў прыгожых мастацтваў спрабуе зменшыць прыток жадаючых на літаратурныя серады».

Вялікай заслугай членаў літаратурнай секцыі была арганізацыя чытанняў для народа, пачынаючы з лістапада 1899 года. Яны праводзіліся ў памяшканні таварыства амаль кожную нядзелю. Частка бясплатных білетаў рассылалася ў чайныя папячыцельствы і ў кніжныя магазіны. Чытанні набылі такую папулярнасць, што прадпрымальныя дзялкі сталі перапрадаваць бясплатныя білеты. Пазней гэтыя білеты сталі загадзя рассылацца «на фабрыкі і заводы і разбіраліся рабочымі нарасхват». Вялікае было маральнае і выхаваўчае значэнне чытанняў, аднак перад першай рускай рэвалюцыяй яны былі забаронены.

Актыўна дзейнічала і драматычная секцыя. 14 лістапада 1899 года ў памяшканні таварыства быў паказаны першы народны спектакль «Беднасць — не загана» А. Астроўскага. У гэтым спектаклі ролю Міці выконваў Я. Чырыкаў. Затым пайшла цэлая серыя спектакляў па п'есах Астроўскага. У спектаклі «Свецідь, ды не грэе» Ільіча выконваў А. Аляксандраў, а Ганну Уладзіміраўну—В. Чырыкава. Папячыцельства аб народнай цвярозасці аказвала матэрыяльную дапамогу і ў справе арганізацыі народных спектакляў. Так, у 1900 годзе яно субсідзіравала таварыству 2 тысячы рублёў на набыццё касцюмаў і дэкарацый.

Пачынаючы з 1900 года прадстаўленні даваліся штотыднёва па пятніцах і нядзелях. Зала, якая ўмяшчала каля 400 чалавек, была заўсёды перапоўнена, публіка набівалася ў праходы. У 1901 годзе ў памяшканні быў зроблены рамонт, праведзена электрычнасць, а колькасць месцаў павялічана да 700. Аднак зала заставалася перапоўненай. Прыцягваў не толькі рэпертуар, які ўключаў лепшыя класічныя і сучасныя творы, але і невысокія цэны білетаў — ад 10 да 60 капеек. Для параўнання: самыя танныя білеты ў гарадскім тэатры (стаячыя на галёрцы) каштавалі 40 капеек, а ў партэры — да трох рублёў.

За 8 гадоў існавання таварыства мінчане ўбачылі на яго сцэне спектаклі па творах А. Астроўскага, Л. Талстога, І. Тургенева, А. Чэхава, М. Лермантава, Г. Ібсена, М. Гогаля, Ф. Дастаеўскага, Я. Чырыкава і іншых. Выбар рэпертуару быў звязаны са значнымі цяжкасцямі, даводзілася пераадольваць супраціўленне цэнзуры. У 1905 годзе таварыства скардзілася мінскаму губернатару на самавольства паліцмайстра, які забараніў пастаноўку «Гора ад розуму» А. Грыбаедава, «Улада цемры» Л. Талстога, «Лес» А. Астроўскага.

З вялікай цяжкасцю прабіваліся на сцэну творы М. Горкага. У 1903 годзе Н. Далгову ўдалося дабіцца дазволу на пастаноўку п'ес «Фама Гардзееў» і «На дне». Гэта была першая пастаноўка «На дне» на сцэне аматарскага тэатра. Спектакль ішоў з вялікім поспехам — на працягу пяці дзён ён быў сыграны тройчы. П'еса «На дне» ставілася таксама ў 1904 і 1905 гадах.

Крытыка адзначала высокі ўзровень выканання аматарскай трупы. Нічога дзіўнага: калектывам кіравалі вопытныя прафесіянальныя акцёры. У 1903 годзе на платную пасаду галоўнага рэжысёра драматычнай секцыі быў запрошаны з Пецярбурга Н. Далгоў, а ў 1905-м — С. Дзмітрыеў, які паставіў «Дзядзьку Ваню» А. Чэхава і «Злачынства і кара» Ф. Дастаеўскага. Некаторыя спектаклі ставіліся аматарамі: М. Гарулёвым, М. Сахаравым (рэдактар «Мінскага лістка», былы акцёр), В. Любамірскім, А. Аляксандравым, які меў вялікі вопыт пастановак аматарскіх спектакляў у Саратаве і Пецярбургу і з'яўляўся першым галоўным рэжысёрам драматычнай секцыі.

На сцэнічнай пляцоўцы таварыства гастралявалі вядомыя тэатральныя калектывы. У 1904 годзе выступалі акцёры Пецярбургскага тэатра літаратурна-мастацкага таварыства, у 1905 — артысты Варшаўскага ўрадавага тэатра, у 1906, перад самым закрыццём таварыства, прыязджала трупа пецярбургскага тэатра Камісаржэўскай.

Мастацкая секцыя таварыства была створана па ініцыятыве вядомага мастака-баталіста афіцэра А. Папова, які служыў у той час у Мінску. Яму ж належыць заслуга адкрыцця першай у горадзе рысавальнай школы. У снежні 1899 года па ініцыятыве членаў мастацкай секцыі ў Мінску была наладжана выстаўка мастакоў-перасоўнікаў (па шляху з Чарнігава ў Варшаву). На гэтай выстаўцы мінчане ўбачылі карціны І. Рэпіна, У. Макоўскага, Ф. Мясаедава і іншых. У 1902 і 1904 гадах таварыства наладжвала мастацкія выстаўкі, на якіх дэманстраваліся работы мясцовых майстроў, у тым ліку і членаў секцыі (Я. Кругера, Г. Ільінуса і інш.), а таксама творы з прыватных збораў.

Звестак аб рабоце музычнай секцыі захавалася мала. Вядома, што ў секцыі быў свой мастацкі аркестр, якім спачатку кіраваў карпусны ўрач Касухін, а пасля адвакат В. Чавусаў. Секцыя арганізоўвала суботнія танцавальныя вечары з музычнымі і літаратурным аддзяленнямі, а пачынаючы з 1903 года ёю былі дадзены рад агульнадаступных канцэртаў.

З самага пачатку Мінскае таварыства аматараў прыгожых мастацтваў складалася з прадстаўнікоў інтэлігенцыі: урач С. Нейфах, выкладчык П. Аляксандраў, адвакат і журналіст Д. Мейчык, аграном К. Пятроў, кантралёр К. Какоўцаў (саслужывец Мяржынскага і Чырыкава), падпалкоўнік С. Чарапанаў, вядомы сваімі «панядзелкамі», на якія збіраліся прадстаўнікі радыкальна настроенай інтэлігенцыі горада, член гарадской управы С. Хаванскі і многія іншыя. Удзел у рабоце таварыства даваў ім магчымасць зносін па-за сферай прафесіянальных інтарэсаў, з'яўляўся сродкам выяўлення сваёй грамадзянскай пазіцыі.

Паступова, пад уплывам рэвалюцыйных падзей 1905 года, дзейнасць таварыства набыла адкрыта рэвалюцыйны характар. У ім выдзялялася група лідэраў розных нелегальных партый і напрамкаў: А. Бонч-Асмалоўскі, С. Камінскі, С. Кавалік, М. Мысаўскі, С. Скандракоў. Паліцмайстар Нораў у данясенні губернатару Курлову у студзені 1906 года пісаў, што ў таварыстве аматараў прыгожых мастацтваў многія «сябры належаць да крайніх партый рэвалюцыянераў».

«Па гэтай прычыне,— успамінаў А. Бонч-Асмалоўскі,— за імі сталі ўзмоцнена сачыць: на літаратурныя пасяджэнні пачалі прысылаць паліцэйскага, рэфераты пачалі патрабаваць для папярэдняга прагляду ў губернатарскай канцылярыі, ваенным забаранілі прымаць удзел у таварыстве. З уздымам рэвалюцыйнага руху рэвалюцыянеры сталі выкарыстоўваць таварыства для рэвалюцыйных мэт і пад выглядам бенефісаў ставілі спектаклі для збору сродкаў на нелегальныя мэты». На сходах і дыспутах ішлі бурныя дэбаты на палітычныя тэмы, часам з антыўрадавымі прамовамі і раздачай пракламацый.

Пракламацыі друкаваліся ў тайнай друкарні (яна размяшчалася на Губернатарскай вуліцы), якой загадваў урач С. Камінскі. За захаванне рукапісаў, брашур і тыражыраванне пракламацый «злачыннага характару» ён быў высланы за межы Мінскай губерні, а пасля вяртання зноў арыштаваны і пасаджаны ў мінскую турму за актыўны пратэст у гарадскім упраўленні супраць курлоўскага расстрэлу.

Рэдактар-выдавец «Северо-Западного края» М. Мысаўскі ў 1905 годзе ў сваёй газеце прапагандаваў марксісцкую літаратуру, расказваў аб рабоце рэвалюцыйных партый, друкаваў у друкарні газеты пракламацыі. У канцы 1905 года газета была закрыта, а яе выдавец сасланы ў Архангельскую губерню. Вярнуўшыся ў Мінск, ён быў вымушаны хавацца ад праследаванняў паліцыі.

На працягу чатырох дзесяткаў гадоў маёнтак Бонч-Асмалоўскага Блонь быў сапраўдным домам і «школай для рэвалюцыянераў». Прыязджаў туды і С. Кавалік, які пасяліўся ў 1898 годзе ў Мінску пасля шматгадовых вандраванняў па царскіх турмах і ссылках. Дарэчы, уладкавацца на службу ў гарэлачную манаполію, якая адкрылася пры акцызным ведамстве, яму дапамог усё той жа А. Аляксандраў, які часта бываў у Блоні разам з жонкай.

18 лютага 1906 года ў памяшканні таварыства адбылася лекцыя, прысвечаная Чэхаву, якая перарасла затым у грандыёзны мітынг, дзе сабралася каля 1 000 чалавек. На кафедру падымаліся прамоўцы, якія гаварылі рэвалюцыйныя прамовы, што перапыняліся воклічамі «Далоў самадзяржаўе», «Няхай жыве рэспубліка». Разышліся каля поўначы. Паведамляючы міністру ўнутраных спраў аб часовым закрыцці таварыства, Курлоў робіць вывад, што «першая палітычная дэманстрацыя ў горадзе Мінску мела месца ў памяшканні названага таварыства». Тут жа ён быў вымушаны канстатаваць, што выявіць «праз сведкаў факт дэманстрацыі супраць урада было не толькі цяжка, але і немагчыма, бо прысутная публіка мела агульную салідарнасць».

Гэтыя выступленні не маглі не паўплываць на лёс таварыства — у ліпені 1906 года яно закрылася, перадаўшы свае паўнамоцтвы літаратурна-артыстычнаму таварыству.




**Захар ШЫБЕКА,**
**Соня ШЫБЕКА.**



# У ДАР СВАЁЙ ЗЯМЛІ

У сярэдзіне мая таварыства «Радзіма» і Беларускі фонд культуры прымалі нашых землякоў, гасцей з суседняй Польшчы. Вядомы вучоны, выкладчык Лодзінскага універсітэта доктар Эўгеніюш Іванец і фатограф па прафесіі Юзаф Шыманчык прыехалі наведаць родныя мясціны.

Пяць дзён яны знаходзіліся ў Мінску, ездзілі на экскурсію ў Хатынь, Вязынку, Заслаўе. Літаратуразнаўца і пісьменнік А. Мальдзіс пазнаёміў гасцей з сучасным Мінскам, з яго гісторыяй, правёў для іх цікавую экскурсію ў музеі старажытнага мастацтва Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору БССР. У праграме знаходжання гасцей у Беларусі значыўся і яшчэ адзін пункт — гарадскі пасёлак Косава, што ў Брэсцкай вобласці, адкуль родам Э. Іванец і Ю. Шыманчык.

Напярэдадні сваёй паездкі ў Косава госці былі запрошаны на пасяджэнне камісіі «Вяртанне» Беларускага фонду культуры, дзе Юзаф Шыманчык перадаў у дар камплект фотаздымкаў, зробленых ім у сярэдзіне 30-х гадоў на Палессі.

...З цікавасцю разглядаюць гэтыя фотаздымкі члены камісіі «Вяртанне» — музейныя работнікі, навукоўцы-этнографы, спецыялісты архіўнай справы. Зробленыя больш чым паўстагоддзя назад косаўскім хлопцам фотаздымкі, дзе адлюстравана аблічча і побыт тагачаснага жыхара Брэстчыны, — сёння ўжо дакументы эпохі, якія, несумненна, маюць вялікую цікавасць і для навукі, і для кожнага, хто нарадзіўся на гэтай зямлі.

Маленькая інфармацыя пра аўтара фотаздымкаў: Юзафу Шыманчыку нядаўна споўнілася 80. У 30-я гады ён працаваў у фотамайстэрні, якая вырабляла паштоўкі (у асноўным этнаграфічнага характару). У гады вайны Шыманчык жыў у Слоніме, а пасля вайны, ажаніўшыся з дзяўчынай з Польшчы, пераехаў туды.

— Самыя каштоўныя рэчы ў маёй сям'і, — сказаў Юзаф Шыманчык, — былі плёнкі. Гэта проста шчасце, што яны не загінулі ў час акупацыі. Я ратаваў іх, як родных дзяцей. Уяўляеце, якой была праца фатографа 50 гадоў назад? Якой была апаратура? Я ўхітраўся рабіць фотакарткі нават пры святле газавай лямпы... Здымаў праз усё сваё жыццё... Імкнуўся зафіксаваць не толькі знешні выгляд маіх землякоў, але і паказаць прыгажосць родных мясцін, адухоўленасць і годнасць простых людзей, якія цяжкай працай здабываюць свой хлеб, самабытнасць майго народа.



Невялікая выстаўка Юзафа Шыманчыка была наладжана ў сталічным кінатэатры «Кастрычнік» у час яго знаходжання ў Беларусі. Пэўную колькасць фотаздымкаў набыла Цэнтральная навуковая бібліятэка АН БССР. Камплект фотаздымкаў падрыхтаваў фотамайстар і ў дар роднаму Косаву.

Прысутныя на пасяджэнні камісіі «Вяртанне» мелі магчымасць пагутарыць з доктарам Эўгеніюшам Іванцом, аўтарам вядомай кнігі «З гісторыі стараабрадцаў на польскіх землях».

— Я не магу наслухацца роднай беларускай мовы, — казаў на развітанне наш госць Ю. Шыманчык, — гаварыце, гаварыце са мною. І я буду памятаць усе вашы словы. Я такі шчаслівы, што пабываў на Беларусі.

**Л. НІКІФАРАВА,**
**Т. АНТОНАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: А. МАЛЬДЗІС, Э. ІВАНЕЦ і Ю. ШЫМАНЧЫК на сустрэчы ў фондзе культуры; фотаздымкі Ю. Шыманчыка, зробленыя ў 30-я гады на Брэстчыне.**



## УСЕСАЮЗНАЕ АГЕНЦТВА ПА АЎТАРСКІХ ПРАВАХ: ПРАБЛЕМЫ І ДАСЯГНЕННІ

# ПАРТНЁРЫ—1 000 ФІРМ

Усесаюзнае агенцтва па аўтарскіх правах (УААП) створана 20 верасня 1973 года ў сувязі з далучэннем СССР да Сусветнай (Жэнеўскай) канвенцыі аб аўтарскім праве. Сярод заснавальнікаў УААП — творчыя саюзы, Акадэмія навук СССР, Міністэрства культуры, Дзяржкамітэт па навуцы і тэхніцы, Дзяржкамвыд, Дзяржтэлерадыё...

Галоўная задача УААП згодна з яго статутам—забеспячэнне аўтарскіх правоў савецкіх і замежных аўтараў і іх правапераемнікаў пры выкарыстанні іх твораў на тэрыторыі СССР і за мяжой. Аб пераменах, што адбываюцца ў рабоце УААП, расказвае старшыня праўлення агенцтва **Мікалай ЧАЦВЕРЫКОЎ:**

— Крытыка савецкіх аўтараў у адрас нашага агенцтва ў многім вынік таго, што СССР — член Сусветнай канвенцыі аб аўтарскім праве ў рэдакцыі 1952 года, якая даўно ўстарэла. Інакш кажучы, яна не адпавядае сучаснаму ўзроўню патрабаванняў творчай інтэлігенцыі ў абароне ўласных інтарэсаў. Справа ў тым, што пасля нядаўняга далучэння ЗША да Бернскай канвенцыі аб аўтарскім праве мы сярод развітых краін свету засталіся адзінымі, хто прытрымліваецца Сусветнай канвенцыі ў гэтай устарэлай рэдакцыі. Але не буду драматызаваць сітуацыю: наша адставанне ў гэтай сферы не такое ўжо вялікае. Неабходна толькі адмяніць шэраг выняткаў з аўтарскіх правоў — існуючую, напрыклад, цяпер магчымасць выкарыстоўваць без згоды аўтара і без выплаты яму ўзнагароджання раней апублікаваных твораў у кіно, на радыё і тэлебачанні, а таксама прадоўжыць тэрмін[illegible]ы аўтарскага права з 25 да 50 гадоў пасля смерці аўтара. Менавіта ў такім напрамку распрацоўваюцца прапановы па змяненню заканадаўства ў галіне аўтарскага права, у падрыхтоўцы якіх прымалі сумесны ўдзел [illegible]П, творчыя саюзы, зацікаўленыя ведамствы і ўстановы.

Праект гэтых змяненняў усё яшчэ дапрацоўваецца. Але прамаруджванне, асабліва калі яно выклікана рознагалосіцай і няўступчывасцю шэрагу ўдзельнікаў падрыхтоўчай работы, ускладняе і без таго нялёгкую працэдуру ўзгаднення. Гэта ў выніку магла садзейнічае паляпшэнню ўзаемаразумення паміж агенцтвам і творчай інтэлігенцыяй і адцягвае перспектыву далучэння СССР да Бернскай канвенцыі.

— У СССР на выданне кнігі патрабуецца даволі многа часу. Як у гэтых умовах агенцтва задавальняе актыўны інтарэс, выкліканы за мяжой да працэсаў абнаўлення нашага грамадства?

— Сёння мы прапануем партнёрам не толькі гатовыя выданні, але і рукапісы. Прычым яны ствараюцца спецыяльна для замежных чытачоў з улікам іх інтарэсаў. Напрыклад, па кантракту УААП з англійскай фірмай «Пергамон прэс» выпушчаны «Штогоднік перабудовы». Сярод яго аўтараў — сакратар ЦК КПСС Аляксандр Якаўлеў, вучоны Абел Аганбегян, акцёр Міхаіл Ульянаў, шахматыст Гары Каспараў, публіцыст Фёдар Бурлацкі, мітрапаліт Алексій. Цяпер рыхтуецца да выдання другі выпуск.

У многіх краінах выйшлі работы Таццяны Заслаўскай, Гаўрыіла Папова, Леаніда Абалкіна, Алега Багамолава, іншых вядомых савецкіх грамадазнаўцаў. Яны расказваюць аб сацыяльных і эканамічных прынцыпах новай унутранай і знешняй палітыкі КПСС.

Што ж датычыць навукова-тэхнічнай літаратуры, то мы імкнёмся знаёміць савецкіх спецыялістаў з працамі вучоных з сусветным імем па самых розных галінах. І, вядома, у сваю чаргу, расказаць аб нашых даследаваннях і адкрыццях. У шэрагу выдавецтваў ЗША, ФРГ, Галандыі выходзяць кніжныя серыі па фізіцы, біялогіі, матэматыцы, энергетыцы. Яны падрыхтаваны групамі вучоных з розных даследчых інстытутаў Масквы, Мінска, Тбілісі, Вільнюса, Кіева, Казані.

— Многія гады за мяжой быў вядомы даволі невялікі круг савецкіх пісьменнікаў. Што ж, застойныя часы адбіліся на літаратурным жыцці ў нашай краіне... Як складваюцца цяперашнія адносіны з замежнымі выдаўцамі?

— Вядома, нельга не прызнаць, што выдаўцы многіх краін адчувалі непарадак у нашай літаратуры, выкліканы забаронамі і выключэннямі, адлучэннем ад літаратурнага жыцця «непажаданых аўтараў». Заходнія выдаўцы не праяўлялі цікавасці да штучна створаных «аўтарытэтаў». Але перабудова, што рэзка змяняе жыццё краіны, у прыватнасці і літаратурнае, спрыяльна адбілася на ўзаемаадносінах з нашымі партнёрамі.

Аднавілася супрацоўніцтва з многімі з тых, з кім былі спынены кантакты, з'явіліся новыя партнёры. У Францыі — фірмы «Аксюд», «Алінеа», «Фламарыён». У Італіі — «Адэльфі», «Спіралі», «Фларэнтыйская выдавецкая група», «Муліно». Сёння нашымі партнёрамі з'яўляюцца больш чым 1 000 фірм з 80 краін свету.

Вось некалькі лічбаў у доказ росту выдавецкага інтарэсу да савецкай літаратуры. У 1986 годзе колькасць аўтараў, работы якіх убачылі замежны свет, наблізілася да 350, летась яна вырасла да 600, прычым 252 з іх — новыя імёны.

Сёння выдавецтвы сапернічаюць паміж сабой за права першымі апублікаваць таго ці іншага савецкага літаратара. У ЗША, Італіі, ФРГ, шэрагу іншых краін выдадзены зборнікі твораў маладых празаікаў. На доўгатэрміновай аснове вядзецца супрацоўніцтва з японскім выдавецтвам «Рыронся», у якім выходзіць бібліятэка савецкай дзіцячай літаратуры ў 26 тамах. Іспанскае выдавецтва «Планета» выдае серыю твораў пісьменнікаў СССР.

Упершыню некаторымі выдавецтвамі заходніх краін былі падпісаны пагадненні аб публікацыі п'ес савецкіх драматургаў. Аўтары п'ес сталі прымаць непасрэдны ўдзел у пастаноўцы сваіх твораў у тэатрах многіх краін, пісьменнікаў запрашаюць прадстаўляць свае кнігі на міжнародных кніжных кірмашах. Усё часцей гасцямі УААП становяцца замежныя літаратары, выдаўцы, перакладчыкі. Яны знаёмяцца з працай выдавецтваў, тоўстых часопісаў, сустракаюцца са сваімі савецкімі калегамі.

# АРКЕСТРАЎ ЗВОНКІХ МЕДЗЬ...

Час мяняе захапленні. На жаль, цяпер становіцца ўсё меней прыхільнікаў духавой музыкі, без якой раней не абыходзілася кожная больш-менш урачыстая падзея. І хоць і сёння ў парках і скверах, на плошчах і вуліцах у час розных святаў гучыць медзь аркестраў, але трэба шмат яшчэ зрабіць, каб вярнуць духавой музыцы колішнюю папулярнасць. Менавіта дзеля гэтай мэты ў майскія дні і адбылося Рэспубліканскае свята духавой музыкі. Такога відовішча жыхары і госці сталіцы рэспублікі раней не бачылі. Амаль тысяча музыкантаў з'ехалася ў Мінск з усіх куткоў Беларусі — у свяце прынялі ўдзел дваццаць духавых аркестраў.

Удзельнікі свята ўсклалі кветкі да помніка У. І. Леніну на плошчы Леніна і да Вечнага агню на плошчы Перамогі, а потым марш-парадам прайшліся па Ленінскім праспекце і вуліцы Янкі Купалы да плошчы Парыжскай камуны. Тут, у скверы ля тэатра оперы і балета БССР, адбыўся тэатралізаваны канцэрт.

У ім прынялі ўдзел самыя розныя калектывы — фальклорна-духавы ансамбль «Капыльскія дудары», народны харэаграфічны ансамбль танца «Равеснік» Палаца культуры Белсаўпрофа, фальклорна-інструментальны ансамбль «Спадчына» Мінскага інстытута культуры... Гучалі трубы духавых аркестраў Белдзяржкансерваторыі, Гродзенскага, Магілёўскага, Маладзечанскага, Мінскага музычных вучылішчаў.

